## СПИСОК № 4.

кандидатов в гласные городского Совета гор. Минска.

от Российской об'единенной радикально-демократическ. группы.

1. Мотлин Иван — присяжный поверенный.
2. Самойло Владимир — учитель химик.
3. Каморник Николай — железнодорожник.
4. Широков Иван — агроном-кооператор.
5. Вощинин Даниил — юрист—земский деятель.
6. Бурак Платон — железнодорожник.
7. Боровской Андрей кооператор.
8. Регуля Василий учитель.
9. Гернович Василий — юрист—железнодорожник.
10. Бонч-Осмоловский Иродион — агроном.
11. Тулисов Василий — железнодорожник.
12. Арент Август — железнодорожник.
13. Дубина Александр — учитель.
14. Стахеев Василий — железнодорожник.
15. Шумчонв Андрей — железнодорожник.
16. Субботин Иван — кооператор.
17. Донецкая Ольга — кооператор.



Друкарня Інвалідау, Менск.